Opłata pocztowa opłacona ryczałtem.

Цана асобнага нумару 25 грошай.

№ 15—(55). Вільня, 21 красавіка 1928 году. Год II.



# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
|---|---|---|
| Wilno (Вільня), Сьвятаяская вул. № 9, кв. 1. Телефон № 1207. | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл. і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за $1/2$ — 65, за $1/4$—35, за $1/8$ – 20 зл. За мілімэтравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |

## Грамада.

Працэс Грамады ад часу да часу высоўвае на сьвет Божы шмат цікаўных момэнтаў, якія заслугоўваюць на глыбейшы аналіз. Такі цікаўны момант даў 32 дзень працэсу, калі пасланка Касмоўская, Тугут, Хомінскі і іншыя, выкліканыя ў суд, як сьведкі абароны, характарызавалі засядаючых на лаве падсудных правадыроў Грамады: В. Тарашкевіча, Рак-Міхайлоўскага, Астроўскага, Луцкевіча і іншых. Хочам затрымацца бліжэй на характарыстыцы Б. Тарашкевіча, як старшыні пасольскага клюбу Грамады і аднаго з арганізатараў яе, характарыстыка каторага можа служыць падставай для ўяўленьня тых прычынаў, якія паклікалі да жыцьця Грамаду і каторая ў канцы кінула ў вастрог галавароў арганізацыі і сотні беларускіх сялян.

Вось як характарызуюць Тарашкевіча гэныя відныя прадстаўнікі польскай лявіцы:

1) Пасланка Касмоўская (з клюбу Вызваленьня) Тарашкевіча знала яшчэ ў 1916 годзе. Спатыкалася з ім у Сойме ў 1922 годзе. Тарашкевіч лічыў сябе за паленофіля, падтрымаў урад Сікорскага разам з усёю польскай лявіцай і верыў, што ў межах Польшчы будзе можна вясьці культурную і нацыянальную беларускую працу.

Далей сьведка Касмоўская сьцьвярджае, што соймавая польская правіца надта варожа адносілася да беларусаў.

2) Вышы віцэ-міністар і аўтор языковых законаў Ст. Тугут, характарызуе Бр. Тарашкевіча, як паленофіля, які разам з іншымі беларусамі цешыўся з паўстаньня Незалежнае Польшчы і быў пераканаваны ў магчымасьці згоднага сужыцьця беларусаў з палякамі. Тугут лічыць Б. Тарашкевіча за чалавека ідэйнага і беларускага патрыёта, узгадаванага на польскай культуры і зблыжанага ў свой час (да паўстаньня Грамады. — *Рэд.*) да польскае дэмакратыі. Дзеля такога становішча Тарашкевіча Беларускі Пасольскі Клюб у 1924 г. выбраў старшынёю клюбу б. пасла Рагулю, якое становішча да таго часу ад 1922 г. займаў Тарашкевіч.

3) Сьведка б. пасол Хомінскі гаворыць аб абв. Тарашкевічу, якога знаў яшчэ вучнем у гімназіі, дзе вучыўся сам сьведка.

У часе Сярэдняе Літвы Тарашкевіч гаварыў сьведцы, што можна будаваць лёс беларуска-літоўскіх земляў, апіраючыся аб польскую дзяржаўнасьць. Так сама думалі і другія беларусы, якія меліся ў межах Польшчы, апіраючыся на падтрыманьні Польшчы—беларускага П'емонту (нацыянальнага асяродка), будаваць Беларусь, Тарашкевіча лічылі польскія дэмакраты за свайго чалавека. Беларускі Пасольскі Клюб на чале з Тарашкевічам займаў дзяржаўнае становішча. Цераз беларускіх паслоў соймавая польская лявіца паразумявалася з украінскімі пасламі. Да арганізаваньня Грамады прыступіў Тарашкевіч дзеля таго, што ня маючы з'арганізаваных нізоў, нічога ня мог дабіцца ад улады на карысьць беларускага руху.

Беларускі патрыёт, чалавек ідэі, узгадаваны ў польскай культуры, да нядаўняга часу паленофіль,—паленофіль, каторы дзякуючы сваёй польскай орыентацыі мусіў у 1924 годзе пакінуць становішча старшыні тады яшчэ адзінага

беларускага пасольскага клюбу, тагочасная палітычная ідэолёгія каторага ўжо не адпавядала полёнофільскай ідэолёгіі Тарашкевіча — вось у караткіх словах палітычная характарыстыка аднаго з відных правадыроў Грамады, зробленая сьведкамі на судзе. Гэтая характарыстыка адпавядае таму, што думае аб Тарашкевічу большасьць беларускага грамадзянства. І калі гэта так, то паўстае пытаньне, што кінула гэтага чалавека ў тую прорву, у якую папаў ён сам і павёў за сабою значную часьць беларускага грамадзянства?

Бязумоўна, перш чым парваць з прошлым і адважыцца на гэты рашучы крок, ён, як чалавек ідэі, мусіў перажыць цяжкую драму. Тагочасныя палітычныя абставіны разьбівалі крок за крокам усе яго надзеі беларускага патрыёта-полёнофіля. Хмары чорнай рэакцыі, якія завалаквалі тагочаснае жыцьцё ўсяе Польскае Дзяржавы ня толькі не давалі магчымасьці вядзеньня ў той час якой-небудзь культурна-нацыянальнай беларускай працы, але не пакідалі нават месца надзеі на магчымасьць яе ў будучыне. І гэта змусіла Тарашкевіча шукаць выхаду.

Тое, што нам ведама аб Тарашкевічу на падставе яго характарыстыкі зробленай сьведкамі абароны на судзе, прыводзіць нас да пераканаьня, што Тарашкевіч, прыступаючы да арганізацыі Грамады, быў ідэйна далёкім ад палітычнае і соцыяльнае праграмы яе, і арганізацыя Грамады была рэзультатам ня глыбейшых перамен у яго соцыяльна-палітычнай ідэолёгіі, а рэзультатам банкруцтва, у тагочасных палітычных абставінах, полёнофільскага напрамку паміж беларускага грамадзянства.

Гэта былі, паводлуг нас, галоўныя прычыны, якія прывялі да арганізацыі Грамады. Бачачы ўва што ў канцы-канцоў вылілася Грамада і прымаючы пад увагу, што ідэйна Тарашкевіч быў далёкім ад палітычнае і соцыяльнае праграмы яе, мусім далей прыйсьці да пераканаьня, што апанаваньне Грамады бальшавікамі і пакіраваньне яе працы на камуністычны шлях, ідэйна чужы Тарашкевічу, было альбо поўнай неспадзеўкай для яго, што трудна дапусьціць, альбо рэзультатам яго пераканаьня, што ў патрэбны момант, з'арганізаваныя масы, можна будзе вызваліць з-пад камуністычных уплываў і апіраючыся на арганізаваную іх сілу дабіцца здаваленьня нацыянальна-культурных патрэб беларускага народу.

Тутака мы зусім падзяляем думку пана Вога, выказаную ім у № 67 газэты „Kurjer Wileński“ з дня 23 сакавіка ў артыкуле „Справа Грамады“, калі ён кажа: „зьліквідаваная Грамада была гульнёй, гульнёй на тое, хто каго ашукае: ці пан Тарашкевіч і іншыя камуністых, ці камуністыя іх“.

Як бачым, ашуканым аказаўся Б. Тарашкевіч. І мыляюцца тыя, хто думае, што ліквідацыя Урадам Грамады, спыніўшая гэную жудасную гульню, не дала магчымасьці зьдзейсьніцца надзеям Тарашкевіча і разыграўшы партыю да канца, выйграць яе ад камуністых.

Камуністыя адразу, амаль з першых дзён істнаваньня Грамады, гэтак патрапілі апанаваць яе, што чужыя камунізму элемэнты ў Грамадзе апынуліся ў постаці марыянэтак у іх дасужых руках. Маючы ўсе козыры ў сваіх руках, маючы апроч таго вялікі навык у тэй гульні, якая вялася ў Грамадзе паміж камуністымі і нацыянальна-

## Школьная справа.

Аднэй з найбольш балючых для беларусаў — зьяўляецца справа беларускай школы. На старонках „Беларускага Дня“ мы няраз парушалі яе — падкрэсьліваючы, што рацыянальнае вырашэньне яе Польскай Дзяржавай зьяўляецца адным з першых варункаў наладжаньня добрых адносінаў паміж народамі польскім і беларускім, засяляючым супольна абшары беларуска-літоўскіх земляў. Нажаль, справа гэная да апошняга часу не знайшла належнай разьвязкі.

Некалькі дзесяткоў беларускіх і польска-беларускіх школаў, адчыненых урадам на падставе істнуючага недарэчнага закону, зьвязанага з сваіго роду плебісцытам — ня можна прызнаць вырашэньнем гэнае справы — і ня можа здаволіць імкненьняў беларускага народу да школы ў роднай мове.

Аднак, калі ў справе ніжэйшае асьветы, ня гледзячы на ўсё — што-нібудзь такі зроблена Урадам, то ў галіне сярэдняй беларускай школы справа за апошні год зусім не кранула з месца і засталася там, дзе знайшоў яе маёвы пераварот, ад каторага беларускае грамадзянства чакала, і чакае дагэтуль большага зразуменьня яго нацыянальных балячак і радыкальнага іх вырашэньня. Як да маёвага перавароту, так і цяпер у галіне сярэдняе беларускае школы пануе сыстэма прыватнасьці, сыстэма канцэсіяў.

На вялікую шкоднасьць гэнае сыстэмы мы ўжо зьвярталі ўвагу ў № 7 „Беларускага Дня“ з 17 красавіка 1927 году ў артыкуле „Справа школьнае палітыкі“.

Аснаўныя думкі, выказаныя ў ім год таму назад, зьяўляюцца і дагэтуль настолькі актуальнымі, што лічым ня лішнім паўтарыць іх.

„Прыватная школа можа жыць у горадзе і прытым у горадзе багатым, дзе ёсьць поўныя групы матар'яльна забясьпечанага жыхарства, якія могуць утрымліваць школу на свой уласны кошт.

Прыватная школа, нарэшце, можа істнаваць, як дадатак да школы дзяржаўнае, калі дзяржава — яе бюджэт, — не пазваляець задавольніць усіх культурных патрэбаў жыхарства.

Але ня можа істнаваць прыватная школа, як сыстэма школьнае палітыкі, асабліва цяпер, пры нашых варунках хворага грамадзкага жыцьця, затручанага чадам ненавісьці і недавер'я. Для нас дык зусім зразумела, што нават у Вільні, ня кажучы ўжо аб вёсцы, — дзе ідэя прыватнае школы зьяўляецца абсурдам з браку грамадзкае сьвядомасьці і беднасьці сялян, прыватная беларуская школа, як сыстэма, немагчыма без таго, каб яна не папала ў рукі спэкулянтаў і палітычных махляроў.

Да таго часу, пакуль беларускія гімназіі ад-

беларускімі элемэнтамі яе—а што галоўнае, лічачы ўсе спосабы добрымі, абы толькі выйграць партыю — камуністыя былі поўнымі гаспадарамі сытуацыі і якія-небудзь надзеі на выйгрыш Тарашкевіча і яго ідэйных аднадумцаў з Грамады — зьяўляюцца абсурдам.

Так, камуністыя выйгралі гэту партыю у нацыянальна-беларускага элемэнту Грамады!

Шмат гора прычыніла гэная гульня беларускаму народу, разьбіўшы яго нацыянальныя сілы, зглуміўшы частку іх у вастрогах, частку аддаўшы на службу чужым беларускаму народу ідэалам чырвонай Масквы.

Няхай-жа сумныя рэзультаты гэнай „гульні" беларускіх патрыётаў з камуністымі і іх абмылкі будуць навукай для тых, хто ў камуністычным раі мае надзею знайсьці разьвязку нацыянальнае беларускае праблемы!

---

## Аб беларускіх скаўтах.

Усе народы Эўропы, а нават краі паза-эўрапэйскія даўно ацанілі над'звычайную вартасьць у галіне выхаваньня моладзі г. зв. скаўтынгу. Скаўтавыя дружыны ў сярэдніх і пачатковых школах карыстаюцца з апекі і дапамогі Дзяржавы, якая заінтарасавана ў фізычным і моральным узгадаваньні моладзі.

Беларуская моладзь больш, чымся іншая, вымагае над'звычайнае апекі і ўважлівага адносіньня з боку старэйшага беларускага грамадзянства. Розныя прычыны складаюцца на тое, што скаўтынг для беларускай моладзі зьяўляецца патрабнейшым і цаньнейшым, чымся для маладога пакаленьня другіх народаў. Аб гэтай патрэбе добра ведае ўсё беларускае грамадзянства, акрамя хіба тых, хто замест скаўтавых дружын хацелі-б відзець камсамольскія беларускія арганізацыі.

У 1928 г. заснаваліся тры дзявочыя скаўтовыя дружыны пры Віленскай і Радашкаўскай гімназіях.

Заснаваньне гэтых дружынаў адбылося пры дзейнай дапамозе інструктаркі скауткі з мэтадыскае жаноцкае місіі, якая працуе на нашых землях. Дагэтуль ніводная беларуская арганізацыя на скаўтынг не зьвярнула ўвагі. Скаўтынг вельмі далёкі ад палітыкі, а ад некаторага часу завёўся ў беларусаў нейкі благі звычай, што на ўсё, нязьвязанае з палітыкаю, не зварачваецца ўвагі.

Пры такім палажэньні, тым з большай прыхільнасьцю павінна была спаткацца інцыятыва і помач мэтадыстаў, якія ўзяліся за арганізацыю і кіраўніцтва беларускімі скауткамі. Беларусы ўжо ня раз спатыкаліся з безінтарасоўнай помачай амэрыканскіх арганізацыяў у часе вайны, калі гэтыя арганізацыі дакормлівалі і адзявалі галодных і халодных беларускіх дзяцей. Ніхто тады ня думаў падымаць пратэсту процiў гэтае дабрадзейнае амэрыканскае помачы.

Жаночая мэтадыская місія вядзе інтэрнат для вучаніц беларускае гімназіі, што, як сьцьвярдзілі самыя выхаванкі гэтага інтэрнату, зьяўляецца дабрадзействам для дзяўчат, сялянскіх дзяцей, дагэтуль быўшы без патрэбнай апекі і канечнага для будучае інтэлігэнткі выхаваньня. Такі ж інтэрнат для хлапцоў істнуе ўжо другі год пры Радашкаўскай гімназіі. Апрача матар'яльнай дапамогі і нагляду над кіраўніцтвам інтэрнатамі, мэтадысты сярод вучняў асаблівае прапаганды свае веры не вядуць, што сьцьвярдзілі дырэкцыі гімназіяў.

З'арганізаваньне двух жаноцкіх скауцкіх дружынаў пры Віленскай гімназіі спаткалася, аднак, замест прыхільнасьці, з нападамі з боку

---

трымліваюць субсыдыі з розных палітычных крыніцаў, — яны залежаць цалком ад іх. Якая-б наагул прыватная беларуская школа ні была адчынена—яна адразу ходам падзеяў пападаець у рукі тых, хто зьяўляецца яе матар'яльным апякуном, бо мясцовае беларускае жыхарства ня можа яе ўтрымаць.

Ставім тутака кропкі над „і". Ніякія цыркуляры, ніякія візытатары і драконскія законы ня могуць аздаравіць прыватнае беларускае школы. Вось дзе зло і корань пытаньня! І прад польскімі школьнымі ўладамі ёсьць цяпер два выхады. Першы—зачыніць усе беларускія прыватныя школы.

І ёсьць другі шлях, шлях запраўднае школьнае палітыкі, шлях здаровае дзяржаўнае думкі — пачаць арганізацыю дзяржаўнага беларускага школьніцтва і асьветы наагул".

Гэтак мы думалі і гэтак казалі 17 красавіка 1927 году.

Праз год часу можам толькі пацьвярдзіць думкі нашыя — бо жыцьцё само паказала колькі гора для беларускага народу прынясла сыстэма прыватнасьці беларускае школы. Аддаўшы яе пад уплывы розных палітычных арганізацыяў яна пакалечыла і дагэтуль калечыць душу нашае моладзі, упутала частку яе ў палітычныя авантуры, якія знайшлі свой фінал у шэрагу палітычных працэсаў, стварыла эміграцыю яе за межы нашае зямелькі — вось сумныя рэзультаты сыстэмы прыватнасьці беларускае школы за кароткі час яе істнаваньня.

А з боку навукі, з боку ўзгадаваньня нашае моладзі — рэзультаты яшчэ больш маркотныя. Не затрымліваючыся на справе навучаньня, якому шмат чаго можна закінуць, і якое ні ў адной з істнуючых беларускіх гімназіяў не стаіць на належнай вышыні*), хочам бліжэй разгледзець рэзультаты сыстэмы прыватнасьці ў галіне ўзгадаваньня нашае моладзі.

Насам перш ў галіне нацыянальнай.

Ці патрапіла прыватная беларуская школа ўзгадаваць нацыянальнае пачуцьцё ў нашае моладзі, ці патрапіла зашчапіць у сэрца яе любоў да свае роднае мовы, да народных звычаяў і культуры? Ці яна ў гэтым напрамку зрабіла ўсё? Не, не зрабіла. І дагэтуль мы зьяўляемся сьведкамі, калі моладзь нашая ў сьценах беларускае гімназіі заместа роднай мовы гавора паміж сабою „на общепонятном языкѣ".

Народныя звычаі, культура? Ці-ж мае час

---

*) Недахоп навучаньня ня думаем тут складаць цалком на плечы настаўніцкага пэрсаналу. У значнай меры недахопы гэныя мелі прычыны звонку, напрыклад: недахоп падручнікаў школьных, мізэрная матар'яльная аплата і г. д.

беларусаў, на якія хіба здольны адны толькі беларусы. Напады гэтыя вышлі з двух бакоў, ад беларускай правіцы і лявіцы. — „Беларуская Крыніца“, орган хадэцыі, ў № 23 з 30 сакавіка, абрылася на мэтадыстаў за тое, што яны приступілі да арганізацыі беларускага скаўтынгу. Пры гэтым „прававерныя“ беларусы з „Беларускай „Крыніцы“ дагаварыліся да таго, што арганізаваньне скаўтовых дружынаў, называюць агітацыяй (?) і шкоднай работай для беларусаў, бо яе распачалі і далі ініцыятыву не хадэкі, а мэтадысты, якія перадаюць далейшую працу каля скаўтынгу ў беларускае кіраўніцтва.

З другога боку распалітыкаваныя вучні гімназіі, кіраваныя некім хіба з па-за сьцэнаў яе, на сабраньні сваім, спэцыяльна сазваным па поваду паўстаньня скаўтаў у гімназіі, абгаварвалі пытаньне, ці скаўтовыя дружыны не заграждаюць... інтарэсам працоўных і сусьветнай рэвалюцыі, а ў канцы вынесьлі рэзалюцыю проціў скаўтынгу, як арганізацыі... буржуазнай і клерыкальнай.

Найцікавей, што на гэтай вучнёўскай сходцы быў прадстаўнік вучыцельскага пэрсоналу і дапусьціў дыскусію на такія тэмы.

Але для нас зразумелая акцыя некаторых вучняў віленскай гімназіі проціў скаўтынгу, на іх маюць уплывы безадказныя сілы, розныя кіраўнікі „дзікіх дывізіяў“, людзі чужыя гімназіі, якіх на добры лад нельга дапускаць у гімназію. Больш незразумелым і нязгодным з дасюлешняй сваей беларускай пазыцыяй зьяўляецца голас нашых хадэкаў, якія відаць хочуць гэтым чынам прыслужыцца свайму начальству, каб ласкавейшае было.

З голасу „Беларускае Крыніцы“, скваппа скарыстаў „Dziennik Wileński“, орган польскае хадэцыі і нацыяналістаў і паўтараючы словы „Беларускае Крыніцы“, з мэтадыстаў па поваду беларускага скаўтынгу зрабіў чуць не камуністых, зьмяшаўшы ў адно і беларускіх хадэкаў і мэтадыстаў і б. дырэктара Астроўскага, і з гэтае мешаніны выцягнуў адно, што беларускія скаўткі „выврэтовцы“. Але для „Dziennika“ гэта да твары, іншага ў адносінах да беларускіх скаўтак ад яго спадзявацца нельга, для „Крыніцы“-ж крыху сорамна.

Аднак мы пераконаны, што ня гледзячы на беспадстаўныя напасьці „Беларускае Крыніцы“, „Dziennika Wileńskiego“ і варожасьці да скаўтынгу несьвядомае палітыкуючае моладзі, скаўтовыя беларускія дружыны будуць жыць і разьвівацца.

Беларускае грамадзянства павінна падтрымаць іх, заапекавацца і цаніць так, як гэта робяць грамадзянствы другіх культурных народаў.

*С.*

---

**Рэдакцыя зварочваецца да сваіх падпісчыкаў з просьбай не адкладаць высылкі падпісных грошай за газэту, у выпадку неатрыманьня падпіскі далейшая высылка „Беларускага Дня“ будзе стрымана.**

---

## ЗАГАДКІ.

1) У лесе вырасла, з лесу вывезьлі, доўгі час бадзялася, людзям у рукі папалася, з няжывога стала жыць і людзей весяліць.

2) Родзіцца ў шапцы, паміpae голы.

3) Хоць круглы, ды ні яблык,
Салодкі ды ня мёд,
Маленечкі на пагляд,
А кваціцца народ.

---

гэткімі „глупствамі“ забіваць галаву дзетак школа, калі мэтай яе апякуноў зьяўляецца, ў лепшым выпадку, навучэньне палітычнае пляцформы тае ці іншае партыі, альбо палітграматы паводле рэцэпту Саветаў.

Ёсьць гімназіі, ў каторых нацыянальнае пачуцьцё найчасьцей гадуецца ў вучнях толькі шляхам узгадаваньня зоолёгічнага шовінізму і ненавісьці да ўсіх „ворагаў“ беларускага народу, паміж якімі палякі, польскія „буржуі“ і полёнофільскія беларускія групы займаюць не апошняе месца.

У рэзультаце гэнае сыстэмы ўзгадаваньня мы маем шмат здарэньняў, калі гадунцы беларускай гімназіі, скончыўшы яе — выходзілі ў сьвет людзьмі, зусім чужымі беларускай нацыянальнасьці.

А ў галіне агульнага ўзгадаваньня, таго узгадаваньня, якое мае сваім об'ектам ня тую ці іншую нацыянальную вопратку, а чыстую дзіцячую душу і мае на мэце даць грамадзянству людзей дужых духам і целам, людзей высокіх моральных вартасьцяў, якія маглі-б стаць у будучыне на чале народных масаў і вясьці іх да лепшае долі.

У гэтай галіне, якія рэзультаты дала сыстэма прыватнасьці беларускае школы?

Калі адказваючы на гэтае пытаньне сказаць што сыстэма прыватнасьці і ў гэтай галіне не дала ніякіх рэзультатаў, то гэта значыла-б не сказаць усяе праўды, бо на падставе тых фактаў, якія нам ведамы, мы з сумам мусім сьцьвярдзіць, што сыстэма гэтая была прычынай поўнага маральнага развалу нашае моладзі.

Вось яны, гэтыя факты. У аднэй з беларускіх гімназіяў, у якой уплыў палітычных апякуноў яе выступае найбольш ярка, двох вучняў другой-трэцяй клясы, падчас дыктоўкі, вядуць паміж сабою дыспуту: з якой буквы трэба пісаць слова „Бог“ у сказе: „Бог стварыў неба і зямлю“. Настаўніца чуе гэную спрэчку вучняў і добра ведае, дзе крыніца яе. Яна разумее, што справа туткі не ў няведаньні, а толькі у дэманстрацыі „бязбожніка“, які чуючы за сабою плечы сапраўдных гаспадароў школы, ад каторых залежыць цалкам і доля настаўніцы, ня хоча путаца ў гэную спрэчку. Але „бязбожнік“ вядзе дэманстрацыю далей. Ён проста зьвяртаецца прад усей клясай да настаўніцы і просіць яе вырашыць іх спрэчку. Настаўніца палітычна адказвае, што гэта дыктоўка, і яны самі павінны пісаць, як ведаюць, а калі будзе абмылка, дык яна падкрэсьліць.

„Бязбожнік“ пакуль што пабіты. Настаўніца

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Культура ячменю (Hordeum).

Ячмень належыць да аднае з самых старых хлебных расьлін і быў ужо вядомы старажытным народам, бо культывіраваўся ў Эгіпце і Азіі, адкуль разыйшоўся па ўсёй Эўропе. Найбольш яго сеюць на Украіне (ў губэрнях Палтаўскай, Херсонскай), ў Румыніі, Чэхаславакіі і гэтак сама ў Нямеччыне. У Польшчы пад ячмень засяваецца кожны год больш як 1.250.000 *ha*, што дае ў сярэднім збор ураджаяў да сту аднаго мільёна пуд. зярнят.

Ячмень сеюць, як у палудневых краёх, так і на крайняй поўначы — ў Сыбіры, ў аколіцах Енісею, Амуру і каля г. Архангельску.

Ячмень перад усім дзеліцца на гэткія гатункі:

Ячмень звычайны (Hordeum sativum), які мае сярэднія каласкі асьцістыя і плеўкі малыя; затым ячмень лускаваты з сярэднімі каласкамі гэтак сама асьцістымі, але з плеўкамі даўгімі, як самыя зярняты. Ёсьць яшчэ ячмень белы, ў якога зярняты зрастаюцца разам з плеўкамі, гэтак сама ёсьць ячмень чорны (Hordeum nigrum), які мае зярняты зросшыя з плеўкамі. У некаторых мясцовасьцях разводзіцца яшчэ ячмень белы, пад назовам **„Оркіш белы"** (nudum) і **„Оркіш чорны"** (nigranudum), у якога зусім голыя зярняты.

У нас найбольш распаўсюджаны гатункі белага ячменю, які дзеліцца на **двухрадовы**, каласкі яго нібы сплюшчаны і зярняты голыя, або ў плеўках уложаны ў два радкі.

Сюды адносяцца вядомыя старыя гатункі ячменю: **„Мараўскі"**, **„Шэвальле"**, **„Імпэрыял"**, зярняты якіх ідуць найбольш для бравароў на выраб піва.

Гатункі-ж двураднага ячменю з голымі зярнятамі, гэтак званага **„Гімалайскага"**, ідуць на выраб пэрловых круп, хаця і **чатырохрадовы** гімалайскі блакітны і **„Ерузалімскі"** — голы ідуць на крупы.

Для нас, як і для ўсяе сярэдняе Эўропы, найбольшую вагу мае звычайны бледна-жоўты **чатырохрадовы** ячмень, які бывае яравы і азімы. Зярняты чатырохрадовага ячменю заўсёды трохі меншыя і танчэйшыя, як зярняты двухрадовага.

Пападаюцца яшчэ гатункі ячменю **шасьцёхрадовага**, які можа разводзіцца толькі на палудні, бо баіцца прымаразкаў.

Чатырох-жа радавы ячмень скарэй пасьпявае і распаўсюджаны нават у паўночнай Сыбіры, дзе замяняе часта хлеб з жыта.

Зярняты ячменю даюць найлепшы корм для коняй, толькі трэба, як кажуць, „адшастаць" (ачысьціць) іх ад асьцей, бо зярняты з асьцямі часта вызываюць у коняй раны пад языком, што завуць „курдзюком"; ячмень вельмі добры для адкорму сьвіней, і крупы гэтак сама надта карысныя для людзей. Ячменная салома — добры корм для быдла, але вельмі гігроскопічна, (лёгка ўцягвае ў сябя ваду), і трэба заўважыць, што адна салома бяз сена, або калі доўга даваць чыстую ячменную сечку коням, то ячменная салома часта вызывае хваробу ў коняй—колікі жывата, або „чэмер". Каровы, якія кормяцца найбольш ячменнаю саломаю, часта даюць гаркаватае малако; што датычыць ячменнае мякіны, то яе ў сухім стане ніколі ня можна даваць ніякай жывёле, а трэба добра парыць кіпнем.

Ячмень мае слаба разьвітую каранёвую сыстэму і расьце спачатку ня хутка, але заўсёды скора пасьпявае і вымагае надта добрае апрацоўкі і лепшых грунтоў. Лепшымі грунтамі для ячменю лічацца грунты сярэдняй зьвязнасьці,

---

аддае сшыткі пасьля праверкі, але дзеля тых самых „вышэйшых" камбінацыяў спрэчнае слова і ў адным і ў другім сшытку застаецца непадкрэсьленым.

Тады „бязбожнік" ужо, як той казаў, „на законнай падставе" дамагаецца ад настаўніцы яснага адказу, дзе абмылка?

— Гэта справа перакананьня, — адказвае настаўніца і трыумф „бязбожніка" поўны. Гэта адзін характарны факт. Нам ведамы іншыя, ня менш характарныя. Ведамы факты рэвізіі вучнямі сшыткоў і кніжак свайго таварыша, западозранага ў тым, што ён мае зносіны з людзьмі, якія паводлуг рэцэпты апякуноў гэнае гімназіі зьяўляюцца „ворагамі" беларускага народу. Ведамы нам таксама факты, калі гадунцы гэнае гімназіі нападалі і білі да крыві сваіх інача думаючых таварышоў, нам ведамы і іншыя факты, але здаецца даволі і гэтых; калі дадаць да гэтых вобразкаў, што ўсе гэныя дэмонстрацыі, усе гэныя вобыскі і іншыя праявы „палітычнай актыўнасьці" гадунцоў гэнай гімназіі не спатыкаюць ніякай рэакцыі з боку настаўніцкага пэрсоналу, толькі тады патрапім зразумець тыя проста страшэнныя варункі, у якіх гадуецца душа нашае моладзі.

Прыводзячы гэтыя сумныя факты, ўзятыя з жыцьця, мы ня хочам сказаць, што яны маюць месца ўсюды. Мы толькі на гэтых прыкладах хацелі паказаць, да якіх жудасных рэзультатаў можа давясьці сыстэма прыватнасьці школы ў грамадзянстве бедным матар'яльна, неарганізованым, ня маючым сродкаў для ўтрыманьня школы сваімі ўласнымі сіламі. Пакуль яна існуе, нічога не памогуць усе высілкі лепшай часткі настаўніцкага пэрсаналу, уся добрая воля паасобных адзінак з паміж беларускага грамадзянства вызваліць школу з чэпкіх рук палітычных спэкулянтаў.

Які-ж выхад з палажэньня? Выхад можа быць толькі адзін, той самы выхад, аб якім мы пісалі год таму назад — гэта арганізацыя дзяржаўнага беларускага школьніцтва. Тады тыя прыватныя беларускія школы, якія ня гледзячы на ўсе свае недахопы, а іншы раз і шкоднасьць, могуць істнаваць цяпер толькі дзякуючы нястачы, або поўнай адсутнасьці беларускіх школаў дзяржаўных, калі гутарка ідзе аб школе сярэдняй, памруць сваёй натуральнай сьмерцяй і застануцца толькі тыя з іх, якія дзеля сваіх вартасьцяў, патрапяць вытрымаць конкурэнцыю са школай дзяржаўнай.

*Д. П.*

суглiністыя або мергельныя, наагул, з прымешкаю вапны, з запасам старога перагною.

На бедных грунтох ён часта не вяртае насеньня, а на сырых, тарфяністых і кіслых ячмень забіваецца сьметніковымі травамі, як напр. сьвірэпіцаю. На надта клустых землях ячмень лёгка вылягае.

**Ячмень ня любіць угноеных сьвежым гноем і ніколі не ўдаецца па льняншчы,** усё роўна, як і лён пасьля ячменю, бо і той і другі забірае многа паташу (калія) з зямлі.

Калі ўжо прыходзіцца даваць пад ячмень сьвежы гной, то лепш прысланць гноем яго, чым заорваць гной.

Сам па сабе ячмень гэтак-жа заўсёды не ўдаецца і заўважана, што лепш расьце пасьля жыта, чым па пшаніцы. Лепш яго сеяць другім хлебам пасьля ўгнаеньня—па бульбяншчы, пасьля вікі, гароху, канюшыны. Пасеяны ячмень ужо на 4—5 дзень, калі стаіць тэмпэратура ня менш як 3⁰—4⁰, пачынае прарастаць, спачатку ідзе туга, пасьля вельмі хутка пасьпявае і знаходзіцца на полі ня больш, як 90—102 дні.

Як мы ўжо зазначалі, ячмень вымагае вапнаватых грунтоў, дзеля чаго пад яго добра даваць якіх 200—300 кілёгр. (12—18 пуд.) **тамасыны,** якая мае ў сабе да 50% вапны і 16% фосфару, і гэтак-жа заўсёды на першым пляне трэба даваць **паташовае (калійнае 30%). Солі** гэтулькі-ж на гэктар, ад чаго вельмі павышаецца збор зярнят ячменю. Таксама падвышае ўраджай і пасыпка зьверху спачатку росту **чылійскаю салетраю,** але ня больш, як 20 кілёграмаў на гэктар, бо лішні азот робіць тое, што зярняты будуць, гэтак званыя, „шкляныя“. Сеяць ячмень трэба мажліва раней, прыкрываючы яго ня глыбей, як на 4—6 сантымэтраў.

Высяваецца насеньня на адзін гэктар радавым севам ня больш як 80 кілёгр. (5 п. 10 ф.), а ў роскід на слабых грунтох 100 — 150 кілёгр. (6—пуд.) і на лепшых да 192—200 кілёгр. (11—12 пуд.).

Ураджай ячменю заўсёды вельмі ня роўны; часамі ён, як кажуць, не вяртае і насеньня, часамі, як у немцаў, дае больш як 20 цэнтнараў (120 п.); у нас-жа сярэдне выдае па 10 цэнт. (60 п.), але можа пры добрай управе сьмела даваць 13—15 цэнт. або 78—90 пуд. з гэктару.

У аднаковых, варунках як двурадовы, гэтак і чатырохрадовы выдае амаль ня роўны ўраджай, толькі зярняты двухрадовага большыя.

Што датычыць **азімага ячменю,** то ён бывае найбольш 2—6 радовы, разводзіцца пераважна на Каўказе, ня вельмі баіцца сьнегу, можа быць кошаны ўвосень і зноў добра адрастае на вясну, вельмі ўраджайны і выдае часта 200 пуд. з гэктару, але трудна пераносіць маразы большыя як 13⁰—15⁰. Яшчэ трэба сказаць, што ўсялякі ячмень ня зносіць скарынкі грунтоў, і тады трэба ламаць кару бараною.

---

Лепшыя гатункі чатырохраднага ячменю.

**„Гронінгэнскі“**—вельмі ўраджайны, але вымагае добрае апрацоўкі і грунту, на маразы мала адпорны.

**„Мамут“**—паходзіць з Канады, вельмі распаўсюджаны ў Гэрманіі, ўраджайны і не баіцца прымаразкаў.

**„Вікторыя Ацкермана“**—адпорны на выляганьне, моцная салома, зіматрывалы.

---

БАЯН.

## Сарваная краска.

(Гл. „Бел. Дзень“ № 14).

### III.

У гэты час у хаце Якуба было гучна...

Кругом стала сядзелі маладыя хлапцы, пачырванеўшыя ад гарэлкі, якая змушала іх вырабляць розныя непрызваітыя рэчы... Шум, крык, дзікія словы былі чутныя з усіх канцоў стала.

Эй ты мая гарэліца,
Эй ты весялушка!...

Заводзіў адзін басам, седзячы на канцы стала.

Гуляй, браце, ў сваёй хаце!
Хто-ж нам забароне?
Весяліся, ня смуціся,
Такі дзень сягоньня!...

Зацягваў другі, дырыгуючы парожняй бутэлькай, пакуль ня ўдарыў ёю аб сьцяну і яна рассыпалася ў дробязгі.

Якуб, гаспадар хаты падліваў што раз болей гарэлкі, ды заахвочваў сваіх таварышоў весяліцца, што называецца.

Калі ўбачыў, што ўжо гарэлка робіць сваё, пачаў п'яным голасам:

— Эй, хлопцы! Вы чулі, што гэты... як ён... Алесь разумненькі прыехаў сягоньня дамоў, той самы, што калісьці лаяў нас за гарэлку прад усёй вёскай.

— Гэты бадзяка! — захрыпеў басам адзін карамжавы хлапец, у якога ўжо ногі блыталіся ад гарэлкі.

— Ня шкодзіла-б яго павучыць, як трэ' жыць з намі, а то ўжо няма й прыступу, такі стаў гэнаровы! Цьфу, паганец! А нядаўна бадла ў дварэ пасьвіў, — прамовіў нехта.

— А яшчэ мне ногу падстаўляць пачаў, бачыце, да Зосі заглядаецца! Ха, ха, ха! — зарагатаў хітра Якуб.

— Ды што там гаварыць! — перабіў адзін здаровы хлапец, — сягоньня якраз вечарынка ў тым канцы, ідзём, дык расплацімся з ім за ўсё!

Усе ў адзін голас падхапілі ягоную думку і вываліліся гуртам на вуліцу. Выкрыкваючы п'яным голасам, ды падштырхваючы адзін аднаго хутка апынуліся ў другім канцы вёскі.

Раптам замаячылася недалёка нечая постаць, якая, убачыўшы натоўп п'яных хлапцоў, пачала змыкаць у працiўным кірунку. Аднак, п'яным толькі гэтага і трэба было.

— Гэй, лаві! Хто там? Стой! — разьлягаліся галасы, ды ўсе, як ёсьць, пабраўшы калы, кінуліся ў дагонку, напаўняючы ўсю вёску дзікімі галасамі. Урэшце адзін з натоўпу, падбегшы, схапіў незнаёмага за каўнер і крыкнуў што сілы:

— Кажы, хто ты, а то заб'ю!

**„Мікуліцкі“** — не баіцца прымаразкаў, даволі ўраджайны.

З пасярод двухрадовых ячмянёў хваляць гэткія:

**„Ганна“** — паходзіць з Маравы, раньні, ня вельмі вымагае ад грунту і ўгнаеньня, больш ідзе на піва, часамі вылягае.

**„Свалёфскі“**—паходзіць з Швэцыі, надаецца на сухія вапнаватыя землі, даволі ўраджайны і няўражлівы на прымаразкі.

**„Баварыя“** — найбольш распаўсюджаны ў Нямеччыне.

**„Шэвалье“**,—гатунак які добра пераносіць засухі, не баіцца маразоў і лішняе сырасьці, добра кусьціцца, хутка расьце і даволі ўраджайны, але зярняты больш надаюцца на выраб соладу для піва, чымся на крупы.

*Я. Х.*

## Гарох (Pisum sativum).

Гарох часта разводзяць, як на агародах, так і на полі, дзеля атрыманьня зялёных лапатак-стручкоў, як прыправы для сосаў, або для зялёных і сушаных зярнят.

Гарох любіць багатую вапнаю зямлю і найлепш удаецца на *пукніх сугліністых*, *чарназемных* і навет *супясчаных* грунтох, абы зямля мела хоць трохі вапны; ён ня зносіць цяжкіх гліністых, балотных і заплыўных грунтоў. Гарох трэба разводзіць на трэці год па ўдабрэньні, бо на клустым грунце і па сьвежым гнаі ён больш расьце ў лісьцьцё і зусім мала дае струкоў.

Дзеля таго, што ўсходы гароху добра могуць зносіць лёгкія раньнія прымаразкі, гарох трэба сеяць зусім рана вясною, як толькі зыйдзе сьнег і абсохне зямля, бо ён ужо пры $1^0, 2^0$ C. цяпла прарастае і на раньнія пасевы гароху ня так нападаюць усялякія шкоднікі — казюлькі. На агародах гарох можна сеяць у радкі на якіх 10 сантымэтраў радок ад радка.

Калі ўсходы падрастуць да якіх дзесяцёх сантымэтраў, трэба тады гарох крыху абсыпаць або зрабіць акучаньне. Для высокарослых гатункаў гароху трэба падстаўляць на агародах тычкі — падпоркі, за якія гарох чапляецца сваімі вусікамі і лепш расьце. Увесь далейшы дагляд гароху будзе ў частым разрыхленьні зямлі і зьнішчэньні сьметнікавых траваў.

Падчас, калі гарох доўга цьвіце, а ня робіць завязі, то трэба абрэзаць вяршкі атожылкаў, што выклікае лепшую і хутчэйшую завязь.

Што датычыць пасеваў гароху на полі, то трэба памятаць, што гарох *ня трэба сеяць на адным і тым-жа полі ці месцы раней, як праз шэсьць гадоў*; хто гэтага ня пільнуе, у таго пасевы гароху штогод будуць горшыя. Поле пад гарох яшчэ з восені павінна быць узорана глыбока; вясною перад пасевам поле добра калі спранжынуецца, вельмі пажаданым ёсьць *даць под гарох колькі можна попелу з печы*, і прыкрыць пасевы бараною або сахою — скорапашкаю, ці культыватарам на глыбіню 4—6 сантымэтраў (1—1,5 вяршкоў).

Над пасевамі трэба ўважна глядзець, каб пасьля навальных дажджоў не паўстала скарынка, чаго гарох ня зносіць: тады пасевы трэба прайсьці шыпаватым каткам (вальцам), каб зьніштожыць гэную кару. Часта бывае, што насеньне гароху вельмі ўшкоджваецца гарохавым жучком і гарох расьце чарвівы, дык вось дзеля зьніштажэньня

---

— Чаго хочаш? — адказаў незнаёмы, — сорамна вам, хлопцы, гэтак напівацца! Замест нешта рабіць, вы напіваецеся і заступаеце людзям дарогу.

— Гэта ты, брат! Ага! Папаўся! — закрычалі ўсе ў адзін голас. — Бі яго! — крыкнуў нехта з натоўпу. — Няхай ведае, як з намі жыць! — закрычаў трэці дый сьцебануў што сілы парканінай па плячох. За ім, як па камандзе, ускінуліся ўсе на Алеся, які ня вытрымаў моцных удараў і паваліўся, як сноп, на зямлю...

А на небе сьвяціў месяц і разліваў свой блеск па беспатольнай беларускай зямліцы, якая выглядала, як старонка з зачараванага краю. У паветры разліваўся салодкі нэктар запаху вясеньніх красак, які напаўняў зблелыя грудзі ажыўчаю сілай. Над рэчкай лёгкім вэльмам павіс белы туман. А кругом усё пакрывала цемра ночы і казала казкі пра гаротнае жыцьцё нашага брата.

IV.

Назаўтра быў вялікі рух ува ўсёй вёсцы.

Кожны бег на месца выпадку, каб праканацца ўласнымі вачыма аб здарэньні з папярэдняе ночы. Спраўцаў забойства зьвязаўшы адправілі ў места, але гэтым не вярнулі старой маці дарагога сына, які быў адзінаю падпораю ў ейным жыцьці, і яна ад жалю была прост няпрытомнаю.

Ня меньш жалела яго і Зоська, якая ў асобе Алеся страціла ўсё тое, што можа быць наймілейшым і найдаражэйшым для чалавека. Усе сяляне шкадавалі моцна Алеся, як іхняга найбліжэйшага прыяцеля, які заўсёды праводзіў з імі вольныя ад працы хвіліны і дзяліўся ўсім тым, што сам здабыў у школе.

Назаўтра пад вечар з хаты на канцы вёскі вырушыла цэлая таўпа народу з жалобным сьпевам у бок могілак. За труною ішла старая матуля ў голас прычытваючы, а побач з ёю Зоська, зьвесіўшы галоўку ўніз з зьвернутымі вачыма ў адзін прадмет, так што здавалася, быццам увакруг нікога ня бачыць. Яна сягоньня ня плакала, не ўраніла ніводнае сьлязінкі, але ўвесь жаль па страце дарагой істоты захавала глыбока ў сэрцы. Труну апусьцілі ў яму, сыпнулі па тры жмені пяску і зацягнулі хаўтурную песьню, сумны голас якой знаходзіў шчыры водгалас у сэрцы кожнага.

Зашумелі сумна падгалыя сасонкі, зьвесіўшы галіны над сьвежаю магілкаю, бы галосячы па Алесю, які, як без пары сарваная веснавая краска, пакінуў гэтую зямельку.

* * *

Пасьля гэтага часта можна было ўбачыць над Алесевай магілкаю маладую дзяўчыну, якая прыбірала незаросшую магілку сьвежымі краскамі ды скрапляла іх чыстымі, як пэрлы, сьлязінкамі.

Канец.

гэтага трэба гарох прад пасевам нагрэць до 40°—45° R., ад чаго лічынкі жучка гінуць, а гароху гэта зусім не зашкодзіць. Гэтак-жа добра памагае, калі гарох перад пасевам апусьціць у ваду, тады ўвесь чарвівы ўсплывае на верх і яго лёгка сабраць і адлучыць ад добрага. Дзе вельмі на свежыя пасевы гароху нападаюць вароны, крукі, сарокі і інш. птушкі, то добра памагае змочваньне насеньня гароху сьмярдзючым алеем аленьняга рогу або каменнавугальным дзёгцем.

Насеньне гароху захоўвае сваю усходжасьць у працягу якіх дзесяцёх гадоў; у адным фунце яго налічваецца вялікіх гарошын да 1300—1500 шт.; а дробных — да 2500 штук. На адзін гэктар высяваюць гароху радавым севам 55 кілёгр ($3^1/_2$ п.), а ў роскід да 128 кілёграмаў, або 8 пудоў, і да 10 пудоў. Ураджай гароху бывае сярэдні 60 пуд., а часамі дае 120 пуд. і больш; саломы бывае заўсёды ўдвая — гэтак 100—160 пуд. з гэктару. З штучных або мінэральных гнаёў вельмі добра даваць на першым пляне: тамасыны якіх 400—500 кілёгр. (24—40 п.), бо тамасына заўсёды мае ў сабе ад 38 — да 50% вапны, апрача 16% фосфару; затым добра даць калійнай (паташовай) 30% солі 200—300 кілёгр. (12—18 пуд.) і навет часамі на вычарпанай зямлі даецца чылійская салетра 30—64 кілёгр. (2—4 п.) на гэктар, што ўсё разам надта павышае і запэўняе ўраджай гароху.

Зярняты сьпелага гароху, як і ўсе стручковыя, вельмі спажыўныя, бо яны маюць у сабе да 22% бялкоў, 2% жыру, да 54% угляводаў, 19% вады і рэшта 3% розных соляў.

---

Як ведама, гатункаў гароху даволі многа і яны дзеляцца на высакарослыя або тычковыя, якія сеюць больш на агародах; на нізкарослыя і скарасьпелыя або палявыя.

Есьць яшчэ гарох *раньні зялёны* — з дробнымі зярнятамі, затым *раньні жоўты*, трохі больш высокі, гэтак сама з дробнымі зярнятамі; *белы дробны* — скарасьпелы. Усе гарохі з буйнейшымі зярнятамі здносяцца да пазьнейшых сартоў, бо пазьней пасьпяваюць. Найбольш вядомымі і распаўсюджанымі гатункамі ёсьць:

**Ангельскі цукровы**, вялікі, раньні, з крывымі шырокімі струкамі.

**Вільморына** — з зеленаватымі зморшчанымі зярнятамі.

**Дэлікатэс** — ураджайны, з вялікімі сакавітымі і мяккімі струкамі; цьвет бела-блакітны.

**„Чуда Амэрыкі“** —раньні, вельмі ўраджайны, нізкі.

**„Тэлефон“** — з вялікімі струкамі і зярнятамі, расьце вельмі высокі, зярняты жаўтавата-белага колеру.

**„Ангельскі“** — шырока-стручны з крывымі як меч, струкамі, позны.

**„Растоўскі“**—калены, раньні, зярняты сярэдняя.

**„Вікторыя“** — вельмі добры і распаўсюджаны гатунак гароху з вялікімі жаўтаватымі зярнятамі, ўраджайны на лепшых грунтох, якіх вымагае на огул гарох.

**„Пялюшка або пясчаны гарох“**, — розьніцца ад звычайнага пасеўнага гароху сваім цёмна-фіялетавым цьветам, чырвонымі плямкамі, дзе пачынаецца лісьцьцё і цёмнымі вуглаватымі зярнятамі. Сеецца пялюшка найбольш, як мяшанка з аўсом (5 — 6 пуд. пялюшкі і да 8 п. аўса на гэктар) на зялёны корм або на сена; расьце добра на *пясчаных грунтох*. Ад грунту многага не вымагае, але калі сеяць па гнаі, надта павышае ўраджай.

Зярняты пялюшкі больш ідуць у корм для жывёлы. *Я. Х.*

---

## Мяшанкі на зялёны корм і на сена.

Гаспадар земляроб найбольш траціць, калі робіць ашчаднасьці ў гаспадарцы на голадзе свае жывёлы. Добры гаспадар павінен дбаць аб тым, каб яго жывёла мела даволі корму ўлетку і зімою. Яшчэ зімою, асабліва калі яна зацягнецца даўжэй, можа здарыцца такі выпадак, што ня хваціць корму, але летам, калі сонца і цяпло працуюць для селяніна, няхвату корму быць не павінна. Аднак ведаем, што часта бывае йнакш, а нават здараецца, што летам для некалькі штук жывёлы бракуе корму больш, чымся зімою. Гэтага ня можа быць, бо жывёла добра кормленая найвялікшы скарб і багацьце ў гаспадарцы, а мораная голадам зьяўляецца толькі цяжарам і стратай. Дзеля гэтага кожны гаспадар павінен ужо з раньняй вясны задбаць аб тым, каб яго быдла і коні мелі добрую пашу летам. Ня ўсюды ёсьць добрыя натуральныя пасьбішчы, найчасьцей нашыя сялянскія пасьбішчы, дзе пасьвіцца ўсё—і быдла, і коні, і сьвіньні і авечкі, праз усё лета прадстаўляюць голы бубен без патрэбнае сьвежае травы і корму для жывёлы, якая толькі гібее на такім пасьбішчы.

Дзеля гэткага палажэньня трэба ўжо вясною пасеяць г. зв. мяшанку, якая зьяўляецца найлепшым кормам, як летам, так і зімою. Кожны селянін павінен сеяць гэтую мяшанку на зялёны корм і толькі такім чынам здолее аберагчы сваё быдла і коні ад голаду.

Звычайныя мяшанкі складаюцца з гарошкавых: пялюшкі, гароху, вікі, бобіку і яравых: аўса, ячменю, часам грэчкі. Лік таго і другога насеньня залежыць ад гатунку поля і ўгнаеньня. З названых гарошкавых найбольш зялёнае масы даюць пялюшка і бобік, меней віка і гарох. Аднак зеляніну вікі ахватней есьць быдла, і віка дае далікатнейшую пашу. Віка і бобік вымагаюць лепшай зямлі або добрага ўгнаеньня. Пялюшка і гарох добра родзяць на горшай ральлі. Таму, ўкладаючы гатункі мяшанкі, трэба прымаць пад увагу гатунак грунту і ўгнаеньня. На лепшым грунце даецца больш вікі, на горшым пялюшкі.

Ячмень ізноў перад поўным каласеньнем ахвотна есьць жывёла, пры чым ячмень расьце хутчэй, чымся авёс. Дзеля гэтага ў мяшанках, там дзе трэба, каб яны хутчэй расьлі, трэба даваць ячменю.

Ведама, хочучы мець добрую мяшанку, трэба ральлю пад яе добра ўгнаіць. Найлепшым будзе сьвежы гной. На сьвежым пагноі мяшанка дае найбольш зялёнае масы. А дзеля таго, што пасьля мяшанкаў звычайна сеецца жыта, дык трэба даваць столькі гною, каб не прапала жыта.

Праўда, гарошкавыя зеляніны самі ўзбагачваюць зямлю ў азот, але трэба помніць і тое, што пасьля гною зьбіраем адзін пасеў — мяшанку, а ведама, што з аднаго барана дзьвюх шкур не дзяруць. Дзеля гэтага, калі гною дадзена мала пад мяшанку, трэба дадаць штучных гнаёў — паташовых і фасфарыстых.

Калі хочуць мець мяшанку, не даючы натуральнага гною, тады ральля павінна атрымаць штучныя гнаі, апрача паташовых і фасфарыстых таксама азотныя, бо пры пачатковым узросьце гарошкавыя збожжы вымагаюць азоту і без яго растуць слаба. Найлепш пасьля ўгнаеньня паташом і фосфарам перад сяўбою, даць пасьля ўсходу 50-70 клгр. на 1 дзесяціну салетры, ці нітрафосу і гэта забясьпечыць добры ўраджай мяшанкі.

Пры ўправе мяшанкі ідзе аб тое, каб мець як найбольш далікатнай зялёнай пашы, а таксама, каб зямля з-пад мяшанкі вышла пухкай і прыгатаванай пад жыта, — дзеля гэтага мяшанку трэба сеяць *густа*.

Пры высеве мяшанак трэба памятаць аб тым, што найбольш пажыўнымі будуць мяшанкі перад, або ў часе красаваньня.

Калі гарошкавыя збожжы пачнуць пушчаць струкі, а авёс і ячмень выкаласяцца, у гэты час паша з мяшанкі будзе менеи смачнай для жывёлы і менш карыснай. Таму вельмі важна тое, каб мяшанку касіць на зялёную пашу і на сена перад красаваньнем. А дзеля гэтага сеяць мяшанку трэба не адразу ў адзін час, а часткамі, каб праз доўгі час улетку можна было мець добрую зялёную пашу.

Сена з мяшанкай у нас дагэтуль не даценяецца. А тым часам скошаная падчас красаваньня мяшанка (пялюшка, віка, авёс) дае сена першага гатунку, цаньнейшае, чымся канюшына, асабліва калі ў мяшанцы ёсьць многа гарошкавага збожжа.

(*„Tygodnik Rolniczy“*).

## Сейце больш канюшыны.

Нашыя сяляне маюць мала лугоў, а лугі гэтыя найчасьцей такія, што не даюць ані сена ані насябішча. Бяз сена-ж і корму для жывёлы трудна ўтрымаць гаспадарку, аплаціць падаткі і мець даход з яе. Дзеля гэтага трэба канечне сеяць канюшыну, якая цалкам заступае сена, а для кароў дае больш карысьці, чымся сена.

Бяз добрага сена з канюшыны трудна выхаваць малочную карову. Пашырэньне малачарства ў нас і гадоўля добрых малочных кароў не магчыма бяз управы канюшыны і траваў. Апрача таго, канюшына ўгнойвае поле і пасьля яе зямля добра родзіць лён, які прыносе ў сельскай гаспадарцы вялікую карысьць.

## Пазыкі на пашырэньне садоўніцтва.

З мэтай пашырэньня садоўніцтва, Міністэрства Земляробства дало пазыку Нясьвіскаму павятоваму сойміку—10.000 злотых на залажэньне школкі фруктовых дрэваў, у Ганусоўшчыне, Лідзкаму Павятоваму Сойміку 19.000 злотых—на школку фруктовых дрэваў у Бярдоўцы і Ст. Чарноцкаму, ўласьніку маёнтку Наеч у Баранавіцкім павеце — 16.000 злотых на пашырэньне школкі фруктовых дрэваў.

## Сельска-Гаспадарская экскурсія.

Саюз хаўрусоў і сельска-гаспадарскіх арганізацыяў Віленшчыны, рыхтуе на дзень 10 ліпня экскурсію ў Пазнань, Памор'е і Ліскава.

Экскурсія мае на мэце пазнаёміць удзельнікаў яе—са станам тамтэйшых паказных сельскіх гаспадарак і з коопэрацыйнымі арганізацыямі.

## Юрыдычныя парады.

**Грам. П. К—чу.** *Запытаньне.* Удава майго брата, які памёр улетку мінулага году ня толькі не аддае мне зямлі і гаспадаркі застаўшайся пасьля брата, хоць я ёй даю не $1/7$ часьць, як належыцца па закону, а $1/2$ ўсяе маемасьці, але бярэ сабе прымака на ўсю гаспадарку. Жыла яна з братам 8 гадоў, дзяцей няма. Ці мае яна права браць прымака на ўсю гаспадарку памёршага мужа?

*Адказ.* Прымака яна можа браць толькі на сваю „удовую долю“ г. зн. на $1/7$ часьць. На ўсю гаспадарку браць прымака ня можа, бо на гэта ніякіх правоў сама ня мае. Падайце у Суд аб прызнаньні за вамі правоў на насьледзтва пасьля брата, з выдзяленьнем удаве законнай яе долі.

**Грам. Я. Ц—му.** *Запытаньне.* Па судоваму прысуду брат мой пазбаўлены ўсіх правоў і асуджаны на 20 гадоў цяжкае турмы. Седзячы ў турме, пасьля прысуду ён зрабіў нейкую запісь, па якой пераказаў сваю зямлю і ўсю наагул маемасьць далёкаму сваяку. Ці запісь брата правільная і ці ня можна яе зламаць і як?

*Адказ.* Каб адказаць на вашае пытаньне трэба ведаць: а) ці запісь гэтая зроблена ўжо пасьля таго, як прысуд увайшоў у законную сілу, ці *да* ўстаноўленага на гэта тэрміну, і б) якая гэта запісь: дарсцьвенная, запрадажная, ці што іншае. Калі зроблена запісь ужо пасьля таго, як прыгавар увайшоў у законную сілу — якая-б яна ні была, як наагул усякае распараджэньне маемасьцяй — ня важная і маемасьці па ёй атрымаць нельга. Падайце ў Суд просьбу аб прызнаньні за вамі правоў на маемасьць брата, як быццам па памёршым.

**Грам. П. Б—ку.** *Запытаньне.* У 1923 годзе я ўзяў у арэнду ў пана засьценак у 16 дзесяцін на 12 гадоў. Быў напісаны кантракт, які меліся пасьведчыць у натарыюса, але неяк не пасьведчылі. Копію кантракту маю я на руках, але яна не падпісана панам і пісана рукой аканома. Засьценкам па гэтаму кантракту я пачаў карыстацца з таго-ж 1923 г. Цяпер ёсьць новы аканом. Пан недзе выехаў і ня жыве ў маёнтку. Аканом гэты не бярэ ад мяне арэнды і аб'явіў, каб я выступіў з засьценку, бо, як ён кажа, кантракту пан не падпісаў і дзеля гэтага гэты кантракт ня мае сілы. Што рабіць і як бараніцца?

*Адказ.* Калі кантракт і ўзапраўды не падпісаны панам — ён мае ў даным выпадку сілу, бо вы па гэтаму кантракту былі дапушчаны да карыстаньня зямлёй, г. зн. кантракт фактычна быў прыняты да выкананьня. Гэткім чынам, калі вы выконваеце ўсё тое, што абавязаны выконваць па кантракту — выселіць вас да канца арэнднага тэрміну ні аканом, ні сам пан ня можа. Калі аканом не бярэ арэнднай платы — унясеце яе ў дэ-

**Зьвярнеце ўвагу на зьмену нашага адрэсу, на 1-й старонцы пад загалоўкам часопісі.**

позыт Суда і чакайце, што будзе рабіць аканом. Бяз суда-ж ён вас ня выкіне. Ну, а на судзе ссылайцеся на тое, што кантракт быў прыняты да выкананьня і вамі і ўласьнікам зямлі, якую арандуеце.

**Грам. К. З-чу.** *Запытаньне*: Ці дзеці „obcokrajowca" якія атрымаў абыватэльства шляхам наданьня маюць права быць упісанымі ў кнігі сталай люднасьці гміны, дзе жыве бацька?

*Адказ:* Згодна з § 13 Уставы з дн. 20.I — 1920 г. (Dz. Urz. № 7 poz. 44) устанаўляецца, што „наданьне і ўтрата абыватэльства польскага, паскольки іначай не вырашана пастановай Міністра Унутраных справаў, абымае жонку набываючага абыватэльства, а такжа і яго дзяцей да 18 гадоў". Гэткім чынам у даным выпадку рашаючым зьяўляецца: 1) ці ў момэнт атрыманьня бацькам абыватэльства дзеці былі малодшыя 18 гадоў, і 2) ёсьць ці не ў акце наданьня абыватэльства бацьку нейкія засьцярогі адносна права дзяцей.

**Грам. Я. К-ну.** *Запытаньне*: Пасьля сьмерці маткі нашай у 1911 годзе бацька зышоўся з адной удавой і мае ад яе дзяцей (у 1912 г. радзілася дачка, а ў 1916 сын). Запісаны яны на імя свае маткі, удавы. Бацька разышоўся з удавой у 1921 годзе, і згодна з прысудам плаціў ёй і яе дзецям ардынарыю. Бацька памёр у лістападзе м. г. Удава цяпер спаганяе з мяне ардынарыю. Ці мае яна на гэта права і што рабіць, каб звольніцца?

*Адказ*: Абавязак плаціць ардынарыю на пракорм незаконных дзяцей — ёсьць асабісты і канчаецца са сьмерцяй абавязанага. Па такіх абавязаньнях насьледнікі—законныя дзеці не адказваюць. Удава ня мае фармальнага права спаганяць ад вас што-колечы на сваіх дзяцей.

**Грам. Р-ку.** *Запытаньне*: Бацька запісаў мне па духоўнай усю сваю зямлю і гаспадарку. Сам ён цяперака ўжо ня ўмешваецца ў гаспадарку зусім і я вяду гаспадарку незалежна і самастойна. Тымчасам да мяне пачынае чапіцца другі мой брат—які жыве ў разьдзеле ўжо больш 15 гадоў. Бацька сам выдзяліў яго, і даў яму 1/2 часьць зямлі і інш. Увосень мінулага году брат самавольна загараў часьць папару і засеяў жытам. Што рабіць і ці можа брат зламаць тастамант?

*Адказ*: Тастамант, пакуль жывё той, хто яго зрабіў, (у даным выпадку ваш бацька) ніякай сілы ня мае і на аснове яго вы тымчасам а ніякіх правоў на маемасьць ня маеце. Бацька хоць сам і не працуе і не распараджаецца — зьяўляецца ўласьнікам. Дзеля гэтага ня вы самі, а толькі бацька, ці вы, але па даверанасьці бацькі, можаце бараніцца ад нарушэньня ўладаньня. У даным выпадку бацька, ці вы ад яго імя падайце ў Суд (Міравы) позву аб восстанаўленьні нарушанага ўладаньня.

**Прачытаўшы газэту, перадай суседу!**

# Корэспондэнцыі.

## Вясна на вёсцы.

*(в-ка Гулі, Пастаўскага пав.)*

Прыбліжаецца вясна. Сонца што раз сьвятлейшым і цяплейшым патокам залівае матку зямлю. У душы селяніна родзіцца радасьць і сьвятлейшая надзея, бачачы нова-адраджаючуюся, маладую і сьвежую прыроду. Даволі кожнаму агоркла зімовая пара. Як старому, так і маладому надаела сядзець амаль што паўгода ў душных і цесных хатах.

Як толькі зазіхацела сонейка ў нябеснай вышы, зарагаталі ручаі ў полі і азваўся сьпеў зьвястуна вясны — ніхто тады з сялян ня можа ўсядзець у хаце. Кожны сьпяшаецца на вольнае паветра, каб напоўніць усьмягшыя грудзі жыватворчай сілай вясны.

Але побач з тэй агромнай радасьцю, якую прыносіць вясна кожнаму селяніну, яна прыносіць так-жа досіць сумнае зьявішча, ад якога траціць гэта залатая пара ня мала свайго чароўнага харастваа.

Хто жыў і жыве на вёсцы, той пэўна добра знае, якое гэта зьявішча псуе хараство адрадзіўшайся прыроды.

Кожны скажа, што вясна, паміма свае чароўнасьці і маляўнічасьці ў прыродзе, прыносіць шмат няпрыемнасьцяў вясковаму селяніну. А найбольш яна ў знакі даецца селяніну-беларусу, жыхару цёмных і глухіх куткоў нашай Бацькаўшчыны. Кожнаму ведама, што з пачаткам вясны пачынае ўсё адтайваць і звальняцца з моцных путаў ліхадзейкі зімы. Тае сьнег, расходзіцца лёд і вытвараецца вельмі вялікі запас вады.

Хоць вада гэта ня шкодная на палёх, але за тое выядае вочы ў вёсцы.

Дзе ня ступіш, гразь і балота ўсюды аж па калені.

Балота гэта ня толькі зьяўляецца на вуліцы і ў дварышчах гаспадароў, але бывае штодзенным зьявішчам нават па хатах.

Дзеля гэтага, хіба кожнаму будзе ясна, што і аясна нясе для селяніна шмат няпрыемнасьцяў. Нават зірнуць і то балюча, калі ўбачыш вясковага селяніна, абутага ў лапці, каторы ідучы праз вуліцу месіць па калені гразь і купаецца ў веснавым балоце.

Дык і ня дзіва будзе тады, калі мы пачуем, нараканьне з вуснаў такога селяніна, на гэтак прыгожую пару году, як вясна. Бязумоўна, тут больш вінаваты самі сяляне, як пара году. Каб яны болей цікавіліся культурным жыцьцём узаровых гаспадарак, напэўна-б перакаваліся, што трэба ўзяцца супольнымі сіламі, выкапаць адпаведныя каналы, дзе-б вада сплывала і выбрукаваць каменьнямі вуліцу. Гэта-ж сорамна нам сядзець у балоце ў той час, як поле наша засеяна каменьнямі на ўсім абшары.

*Вясковы.*

# Хроніка.

17 сакавіка пранеслася вялізарная бура са сьнегам над паўночна-заходняй часткай Польшчы,

захапіўшы Варшаву. Сьнежная завіруха паламала і павыварачвала тэлеграфныя стаўпы, якія пападалі на чугуначныя рэльсы. Дзеля гэтага прарвалася тэлеграфная камунікацыя на многіх лініях. Цягнікі прыходзілі ў Варшаву з апазьненьнем. У многіх месцах растаяўшы сьнег падмыў дарогі і шосы. У Варшаве нападала сьнегу на $^1/_2$ аршына глыбінёю. Да 20 сакавіка няма тэлеграфнай сувязі Варшавы з Пазнаньнем і Катавіцамі.

19 сакавіка соймавая буджэтная камісія прыступіла да разгляду росьпісі выдаткаў і даходаў на 1928—29 год. Разгляд буджэту міністэрства вайны, выдаткі на якое выносяць 712 міліёнаў адложаны дзеля немагчымасьці прыбыцьця на паседжаньне камісіі міністра вайсковых справаў маршалка Пілсудскага. 24 красавіка зьбіраецца сойм пасьля вялікоднага адпачынку.

У Варшаве робіцца прыгатаваньні на спатканьне афганскага караля Аманулляга, які ў канцы красавіка прыяжджае ў Варшаву.

### Шпіёнская арганізацыя ў Нясьвіскім павеце.

Вайсковая ўлада раскрыла на абшары Нясьвіскага павету шпіёнскую арганізацыю, якая вяла работу на карысьць саветаў. Арыштована Антона Сіўковіча і Базыля Піваварчыка, пры якіх знойдзены шпіёнскі матар'ял.

### Беларускія хадэкі ў апазыцыі да ўраду.

На адбыўшымся нядаўна паседжаньні прэзыдыюму Цэнтральнага Камітэту Беларускае Хрысьціянскае Дэмакратыі, пасьля справаздачы паслоў хадэкаў, якія занялі апазыцыйнае становішча да ўраду, прэзыдыюм Б. Х. Д. згадзіўся з такой пазыцыяй паслоў.

### 9-ыя ўгодкі заняцьця Вільні.

19 красавіка ў Вільні адбылося ўрачыстае набажэнства ў віленскім катэдральным касьцёле ў памяць 9-тых угодкаў заняцьця Вільні 19. IV. 1919 г. войскамі маршалка Пілсудскага.

### Беларускі радны.

Выйшаў з друку № 2 часопісі „Беларускі Радны“ з такім зьместам: 1) Дарогі ў нашым краі, 2) аддзел гаспадарчы, 3) гаспадарчыя пара ды, 4) корэспондэнцыі, 5) самаўрадавая хроніка, 6) праўныя парады, 7) мясцовая хроніка, 8) закон аб павятовым самаўрадзе, 9) навука і тэхніка.

### Працэс Беларускай Сялянска-Работніцкай грамады прыбліжаецца да канца.

У суботу 21 закончылася апытаньне сьведкаў і пачаўся разгляд г. зв. „даводаў rzeczowych“ пасьля чаго адбудуцца прамовы пракурораў і абароны і прыгавар суда.

### Разбудова шосаў у віленскім, наваградзкім і палескім ваяводзтвах.

Міністэрства Публічных Работ выасыгнавала 6 мільёнаў злотых на разбудову шосаў у беларускіх ваяводзтвах і ў хуткім часе гэтая будова пачнецца.

**Прызыў гадавіка 1907 г.** распачнецца 1 траўня і будзе трываць 48 дзён. Акрамя гадавіка 1907, будуць пакліканы праз камісію таксама зроджаныя ў 1906 і 1905 г., каторыя атрымалі пры папярэдніх прызывах катэгорыю „Б“.

# Апошнія навіны.

У Польшчы вельмі многа пісалі ўсе газэты аб выезьдзе міністра замежных справаў Аўг. Залескага да Рыму. Там кіраўніка загранічнае польскае палітыкі спатыкалі вельмі ўрачыста і цёпла. Мусоліні першы міністар і кіраўнік усяго палітычнага жыцьця Італіі, якую 6 гадоў таму вызваліў ад камуністычных уплываў, у сваёй прамове на банкеце, даным у чэсьць польскага міністра, падкрэсьліў, што Італія першая з заходніх дзяржаваў выступіла ў часе сусьветнай вайны з жаданьнем адбудовы незалежнасьці Польшчы. Далей Мусоліні высказаўся за навязаньнем якнайшырэйшых адносінаў з Польшчай, якая, адбудоўваючыся гаспадарча і палітычна, зьяўляецца важным сябром эўропэйскага дзяржаўнага канцэрту і імкнецца ў палітыцы да згоды з ўсімі народамі.

Італьянскі міністар высказаўся аб тым, што Італія будзе падтрымліваць Польшчу ў яе мірнай палітыцы над утрыманьнем цэласьці свае тэрыторыі і адбудовай гаспадарчай.

У адказ на прывітаньне міністар Залескі гаварыў аб польска-італьянскіх адносінах, аб уплывах Італіі на польскае жыцьцё ў часе перад адбудовай незалежнасьці, сьцьвярдзіў добрыя адносіны паміж Польшчай і Італіяй, узрост якіх знаходзіцца ў інтарэсах абодвых народаў.

18 красавіка міністар Залескі з жонкай быў прыняты на аўдыенцыі ў Папежа, які падараваў міністровай ражанец.

12 красавіка ў Мэдіоляне ў Італіі нейкія злачынцы дапусьціліся страшэннага зьверства. У часе адкрыцьця таргоў узарвалася бомба, г. зв. адзкая машына вялікай выбуховай сілы, якую падлажылі пад газовы стоўп, каля якога меўся праяжджаць італьянскі кароль. Але кароль ехаў іншай дарогай, а бомба, ўзарваўшыся, забіла каля 20 асобаў і яшчэ больш раніла—ў тым ліку многа дзяцей і салдатаў. Газэты пішуць, што гэта работа анархістых, але адно можна сказаць, што забіваць нічым нявінных людзей, дзяцей, жанчын і салдатаў могуць толькі тыя, што страцілі сумленьне і чалавечы воблік.

Пасьля няўдалага пакушэньня на караля, люднасьць з радасьцяй яго вітала ў Мэдіоляне і пасьля павароту ў Рыме.

**Баўгарыя. Землятрус у Баўгарыі.** У Баўгарыі 14 красавіка здарыўся вялікі землятрус, які зьнішчыў некалькі местаў і многа вёсак. Завалілася каля 5000 дамоў, некаторыя вёскі прапалі так, што пасьля іх няма і сьледу. Найбольш зьнішчэньня дазнала места

Філіпполь. Многа забітых і раненых. Нешта гэты год вельмі багаты ў землятрусы, штосьці сапсавалася ў зямлі і яна даець аб сабе знаць.

**Нямеччына** дагэтуль была адным з краёў, дзе вялікай свабодай карысталіся камуністыя. Але яны і там, як па ўсім сьвеце, вялі антыдзяржаўную работу, імкнуліся завясьці савецкі лад у Нямеччыне. Мала таго, камуністыя маюць свае баявыя арганізацыі. Нядаўна такая камуністычная баёўка выкрала з суда арыштаванага камуніста. Баёўцы ўварваліся да пакою сьледчага судзьдзі, дзе быў арыштаваны і, стэрорызаваўшы прысутных, вывялі арыштаванага. Цяпер міністар унутраных справаў Нямеччыны імкнецца да скасаваньня камуністычных баёвак. Хоць позна, але зразумелі ўрэшце немцы, што такое камуністыя.

**Першы пералёт эўропэйцаў цераз Атлянтыцкі акіян.** Дагэтуль толькі амэрыканцы здолелі пераляцець цераз якіян з Амэрыкі ў Эўропу. Усе спробы эўропэйцаў даляцець з Эўропы ў Амэрыку па-над морам на працягу каля 7000 вёрст, канчаліся няўдачамі і лятуны гінулі. Але гэта не адстрашыла другіх рабіць далейшыя спробы. Гэтымі днямі нямецкія лятуны Кэль і Гюнэфэльд разам з ірляндзкім лятуном Фітцмарысам у першы раз праляцелі цераз акіян, хоць да Нью-Іорку, куды кіраваліся, не даляцелі.

**Францыя** перажывае цяпер выборчую гарачку, ў парлямант, якая асабліва жыва праходзіць у Францыі. Там не выбіраюць, як у нас, паслоў па сьпісках, але аддаюць галасы за паасобных людзей, выставіўшых свае кандыдатуры. Каб быць абраным, трэба атрымаць больш, ніж палову ўсіх галасоў з вокругу. І толькі ў выпадку неатрыманьня такой абсалютнай большасьці праз нікога, ў тыдзень адбываецца другое галасаваньне, для якога патрэбна звычайная большасьць, г. зн. паслом становіцца той, хто атрымае найбольш галасоў. У выбарнай кампаніі ўсе кандыдаты ў паслы бязьлітасна лаюцца і чэрняць адзін другога. Выбары адбудуцца ў нядзелю 22 красавіка і 29 красавіка.

**Літва** ізноў перажывае крызыс, бо ўрэшце проціў ураду Вальдэмараса паўстала духавенства, на чале з усімі біскупамі. Вальдэмарас прыгразіў арыштамі духавенства, але відаць на гэта не адважыцца. 20 красавіка ў Варшаве, Бэрліне і Коўне распачаліся нарады трох польска-літоўскіх камісіяў, якія ўтварыліся ў выніку польска-літоўскае конфэрэнцыі ў Крулеўцу. Трэба думаць, што гэтыя нарады прывядуць да паразуменьня паміж Польшчай і Літвою, якое так патрэбнае для літоўска-беларускіх абшараў.

**У Савецкай Расеі** даходзіць у многіх мясцох да сялянскіх бунтаў проціў рэквізыцыі збожжа, без якога бальшавікі ня могуць абыйсьціся. На гэтым грунце ў выніку спраціву сялян аддаваць апошні пуд збожжа для камісараў арыштавана і асуджана больш, чымся 1200 чалавек. Асабліва востра вядуць барацьбу проціў абдзіраньня з хлеба каўкаскія сяляне, якія хаваюць увесь свой дабытак і збожжа ў горах і нападаюць на бальшавіцкіх урадоўцаў, пасланых па збожжа.

Канфлікт С. С. С. Р. з Нямеччынай па поваду арышту нямецкіх інжынэраў, якія працавалі ў бальшавікоў, неяк прыціх. Арыштаваных перавязьлі з Украіны ў Маскву і каля 20 траўня мае адбыцца над імі суд.

Усе дзяржавы, апрача Амэрыкі, прызналі ўрад бальшавікоў і маюць з імі зносіны. Адна Амэрыка дагэтуль ня хоча гаварыць з камуністычнай расейскай уладай, якую называе сапраўдным імём — сусьветных прахадзімцаў і насільнікаў над сумленьнем і вольнай думкай. С.С.С.Р., як жадная іншая дзяржава, патрабуе амэрыканскае пазыкі, але дагэтуль ня можа яе атрымаць дзеля таго, што амэрыканскі ўрад ня хоча прызнаць бальшавіцкіх камісараў за прававітую расейскую ўладу. Бальшавікі думалі паправіць адносіны Амэрыкі да сябе тым, што меліся закупіць у Амэрыцы шмат тавараў і нават аплату за іх, выслалі 5 мільёнаў рублёў золатам—гэтае золата мела быць зложана ў амэрыканскіх банках, адкуль ужо бралі-б купцы належнасьць за праданыя Расеі тавары. Але амэрыканскі ўрад забараніў увязці гэтае золата ў Амэрыку, як рэч крадзеную. Тады бальшавікі меліся злажыць золата ў Францыі і туды скіравалі яго. Тымчасам у Расеі прапалі вялікія капіталы францускага банку, якія заграбілі бальшавікі ў 1918 г. І вось францускі банк меўся заарыштаваць гэтыя 5 мільёнаў рублёў і дамагацца ад суда выдачы золата яму за забраную бальшавікамі маемасьць. Калі аб гэтым стала ведама, бальшавікі на моры пераладавалі сваё золата на свой карабель і адвязьлі яго ў Расею.

**У Японіі** выкрылі вялікі загавор проціў японскага імпэратара (мікадо). Загаворшчыкамі аказаліся камуністыя, якія працавалі за грошы, прысланыя бальшавікамі з Расеі. Арыштавана каля 1700 чалавек.

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА.

Гр. Мікута Сьцяпан, Журовіч Ян, пошта Азёрніцы; Чэрнянін Ян, пошта Воўкалата; Ганчаронак Уладзімір, пошта Залесе-Дзісьненскае; Кобак Павал, в. Сьцяпана, Куновіч Сымон, пошта Войстам; Самковіч Мацей, пошта Казлоўшчына; Рыган Сымон, пошта Браслаў; Вяршыцкі Аляксандар, Косік Антон, Кароль Язэп, Яблонскі Язэп, пошта Забрэзь; Аўгень Уладзімер, Пашкоўскі Сьцяпан, Навакоўскі Адам, Навакоўскі Марцін, Белановіч Сьцяпан, Еда Пётра, пошта Валожын; Клочко, Шакун Аляксандар, пошта Вішнева — просьбу Вашу спаўняем, пробныя нумары „В. Д.“ высылаем, прысылайце падпіску, бо ў праціўным выпадку высылку газэты праз месяц спынім.

Тодар Паўлюкевіч, пошта Ліда — газэты на Вашу просьбу ня спыняем — прысылайце корэспондэнцыі.

Чытайце, выпісвайце і пашырайце „БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ“.

Адказны Рэдактар і выдавец Ф. Умястоўскі. Druk Józefa Zawadzkiego w Wilnie, вул. Сьв. Анны 3